Штотыднёвая газета

*Са святам Вялікай Перамогі!*

# Вольнае Глыбокае

vglybokaye@tut.by

Выдавец: Прыватнае прадпрыемства «Дарога на Вільню плюс», пасв. №391053932, выд. 12.10. 2009 г. Глыбоцкім РВК. Перыядычнасць – 1 раз на тыдзень, дзень выхаду – чацвер.

Выдаецца са снежня 1994 года | 18 (526) 6 траўня 2010 года | Кошт **свабодны**















## Ïåíñ³ÿíåðàì äàäçåíà 50-ïðàöýíòíàÿ ñêiäêà íà ïðàåçä ó ïðûãàðàäíûì òðàíñïàðöå

■ **Анастасія Янушэўская**

Грамадзянам пенсійнага ўзросту на летні перыяд дадзена50-працэнтная скідка ад кошту праезду на чыгуначным, водным і аўтамабільным пасажырскім транспарце агульнага карыстання рэгулярных прыгарадных зносін(акрамя таксі). Як паведаміла прэс-служба прэзідэнта, гэта прадугледжана ўказам кіраўніка дзяржавы № 204 ад 30 красавіка "Аб дзяржаўнай падтрымцы пенсіянераў".

Ільгота на праезд дадзена "на перыяд сезонных сельскагаспадарчых работ з 1 мая па 30 верасня". Указ набывае моц з дня яго афіцыйнага апублікавання.

## " Ì³ñ Áåëàðóñü — 2010" ñòàëà Ëþäì³ëà ßê³ìîâ³÷ ç Ãðîäíà



■ **Таццяна Палякова,** *БелаПАН*

**Пераможніцай VII Нацыянальнага конкурсу прыгажосці "МісБеларусь 2010" стала 22-гадовая Людміла Якімовіч з Гродна (172 см, 83-59-89).**

Фінал прайшоў 30 красавіка ў мінскім Палацы спорту. Разам з пераходным прызам унікальнай каронай, выробленай з выкарыстаннем 100 г белага золата 585-й пробы і каля паўтысячы каштоўных і паўкаштоўных камянёў Якімовіч атрымала 50 млн. рублёў і права прадстаўляць краіну на сусветных конкурсах прыгажосці. У прыватнасці, Якімовіч, якая стала таксама "Місфота", будзе браць удзел у конкурсе "Міс свету".

Карону пераможніцы ўручыла міс Беларусь 2008 Вольга Хіжынкова.

Тытул "Першая віцэ-міс" і 20 млн. рублёў дасталіся 21-гадовай Ганне Кіндрук з Пінска, званне "Другая віцэ-міс" і 10 млн. рублёў атрымала 20-гадовая Анастасія Харланава з Гомеля. Тытул "Міс глядацкіх сімпатый" атрымала Марына Казека з Брэсцкай вобласці. Ёй аддалі перавагу найбольшая колькасць з 40 тыс. тэлегледачоў, якія ўзялі ўдзел у праведзеным каналам ОНТ галасаванні.

Тытул "Міс Дружба" дастаўся 21-гадовай Вікторыі Раховіч з Мінска. Яе кандыдатуру вылучылі самі фіналісткі конкурсу. Тытулам "Міс Дабрачыннасць" узнагароджана 20-гадовая Аліна Патылкіна з Гомеля.

На шоу выступілі Сяргей Лазараў, Іван Вабішчэвіч, Іван Буслай, гурт J-морс. Гурт"3+2" паказаў нумар, максімальна набліжаны да таго, які пакажа на "Еўрабачанні-2010". На фінале прысутнічаў Аляксандр Лукашэнка.

За карону "Міс Беларусь" у фінале змагалася 31 дзяўчына, адабраная падчас кастынгаў па ўсёй краіне. Сёлета нацыянальны конкурс прыгажосці ўпершыню праходзіў у фармаце самага прэстыжнага конкурсу "Міс свету". Апрача таго, упершыню ў практыцы правядзення нацыянальнага конкурсу прыгажосці быў зроблены ўпор на таленты ўдзельніц. Нацыянальны конкурс прыгажосці "Міс Беларусь" праводзіцца раз у два гады, пачынаючы з 1998 года.

Ïàñòà¢ñê³ ðà¸í

## ²÷ûãóíêà ïàìûëàê íå äàðóå

■ **Станіслаў Раманчук**

**У адрозненне ад буйных гарадоў рух у глыбінцы на чыгуначных перагонах і пераездах не такі інтэнсіўны, саставы тут праходзяць рэдка.**

Аднак толькі ў зоне адказнасці Варапаеўскай дыстанцыі пуці на захадзе вобласці на працягу апошняга года адбыліся 4 дарожна-транспартныя здарэнні з сур'ёзнымі наступствамі. Сёлетняй зімой на ўчастку чыгункі Фарынава-Загацце ўвогуле здарыўся адзін з трох смяротных выпадкаў на Беларускай чыгунцы. Там пад праходзячы поезд трапіў нецвярозы мужчына і знайшоў сваю смерць на чыгуначных рэльсах. Яшчэ раней на гэтым участку перагону пад праходзячы грузавы поезд трапіў цэлы статак кароў эксперыментальнай базы "Ветрынская" Полацкага раёна. Машыністу прыйшлося прымяняць экстранае тармажэнне, але гэта не выратавала частку жывёл ад гібелі. Машыністу прыгараднага поезда Круляўшчызна-Лынтупы на перагоне да Глыбокага таксама ўдалося экстрана тармазіць, што выратавала тады жыццё п'янаму хлопцу, атрымаўшаму цяжкія траўмы. У іншым выпадку на перагоне Варапаева-Шаркаўшчына толькі цудам абышлося без ахвяр, калі з праходзячым поездам сутыкнуўся грузавы аўтамабіль. Вадзіцелям і пешаходам на чыгунцы трэба быць асабліва ўважлівымі, бо ў лічаныя імгненні можна развітацца з жыццём, што здаралася тут не адзін раз раней.

Âåðõíÿäçâ³íñê³ ðà¸í

## Ïðûáàâ³ööà òðàíç³òíûõ ãðóçà¢

■ **Чэслаў Якубовіч**

**Апошнім часам і ў нашай краіне пачынаюць разумець, наколькі стратэгічна важна для развіцця бізнесу ўмела выкарыстоўваць выгаднае геаграфічнае становішча.**

Днямі на чыгуначнай станцыі Бігосава, што ў Верхнядзвінскім раёне, адначасова пагранічным пераходзе з Латвіяй ва ўрачыстай абстаноўцы адкрылі рух паяздоў па другому пуці ў накірунку латвійскай станцыі Індра. Адсюль па стальных магістралях стала яшчэ прасцей і хутчэй перавозіць грузы да буйнога латвійскага порта Вентспілс. На цырымонію прыехаў міністр трасспарту і камунікацый Беларусі Іван Шчэрба, кіраўніцтва Беларускай чыгункі і адпаведна іх калегі з латвійскага боку. Абедзьве дзяржавы спадзяюцца, што цяпер яшчэ ўзрастуць аб'ёмы перавозак знешнегандлёвых грузаў за мяжу, у краіны Еўрасаюза, а таксама адсюль з Латвіі ў напрамку Расіі і далей на ўсходнім накірунку праз Полацк і Смаленск. Зараз прыбалтыйскі сусед адзін з важнейшых знешнегандлёвых партнёраў нашай краіны. Акрамя павелічэння аб'ёмаў перавозак дадатковая стальная артэрыя пасадзейнічае развіццю айчыннай лагістычнай сістэмы і яе інфраструктуры і для ўмацавання сяброўскіх сувязей паміж беларусамі і латышамі.

Ïàñòà¢ñê³ ðà¸í

## Ïàäëÿ÷ûööà êàëÿ äîìà

■ **Кастусь Александровіч**

**Аднымі з першых у Беларусі ў Пастаўскім раёне пачалі ствараць прагрэсіўную сістэму аказання пярвічнай медыцынскай дапамогі па месцы жыхарства насельніцтва.**

Цяпер у горадзе і на вёсцы працуюць 20 падрыхтаваных урачоў агульнай практыкі, а ў райцэнтры ад райбальніцы працуюць ужо 3 іх офісы з амбулаторыямі ў буйнейшых мікрараёнах. Пры неабходнасці да інвалідаў, пажылых людзей прама на дом выязджаюць урач, медсёстры, лабаранты і нават масажысты з фізіятэрапеўтамі. Нават аналізы па жаданню такім людзям сталі рабіць у іх дома. Для тых, хто маладзей і для жыхароў прыгарадных вёсак трапіць на прыём да ўрача, атрымаць неабходныя працэдуры сёння можна і не выязджаючы ў цэнтр. Напярэдадні свята 1 мая ў мікрараёне вуліцы Азернай былога 6-га ваеннага гарадка пры амбулаторыі № 2 адкрыўся ў Паставах сучасны фізіятэрапеўтычны кабінет, дзе ўстаноўлена і навейшае абсталяванне для масажу. Актыўна развіваюць мясцовыя медыкі і тэлемедыцыну. Неўзабаве ўсе поўнасцю медыцынскія кабінеты па раёну аснасцяць камп'ютэрамі і падключаць да лакальнай сеткі Інтэрнэт. Селектарная сувязь паміж ЦРБ і ўчастковымі бальніцамі ўжо працуе. Упершыню ў краіне пры прыёмным пакоі ўкаранілі дыягнастычныя ложкі. Апошнім часам штогод на ўмацаванне матэрыяльна-тэхнічнай базы ўкладваецца па 1,5-2 мільярды рублёў.

## Íàäâîð'å ¢ Ãëûáîê³ì

www.rp5.ru

| Мясцовы час | чацвер 06.05.10 | | | | пятн.07.05.10 | | | сб. 08.05.10 | | нядз.09.05.10 | | 10.05.10 | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | 03:00 | 09:00 | 15:00 | 21:00 | 03:00 | 09:00 | 15:00 | 03:00 | 15:00 | 03:00 | 15:00 | 03:00 | 15:00 |
| Хмарнасць | | | | | | | | | | | | | |
| Ападкі | | | | | | | | | | | | | |
| Тэмпература, °C | +4 | +5 | +11 | +9 | +12 | +15 | +24 | +14 | +23 | +15 | +21 | +12 | +17 |
| Ціск, мм | 750 | 750 | 749 | 747 | 745 | 745 | 744 | 744 | 743 | 742 | 741 | 743 | 745 |
| Вільготнасць, % | 93 | 82 | 70 | 87 | 86 | 76 | 43 | 80 | 49 | 84 | 56 | - | - |
| Вецер м/сек | С-В 4 | С-В 6 | В 7 | В 7 | Ю-В 6 | Ю-В 5 | Ю-В 8 | Ю-В 5 | Ю-В 6 | Ю-В 5 | Ю 7 | З 3 | Ю-З 3 |

## Äçåíü çà äí¸ì

**Працяглае вывяржэнне вулкана Эяф'ялаёкудль у Ісландыі справакавала не толькі глабальны крызіс сусветнай авіятранспартнай сістэмы і закрыццё паветранай прасторы над Беларуссю. Воблака попелу накрыла і нашу краіну, а чалавецтва пераканалася, што і ў XXI стагоддзі цывілізацыя бяссільная перад напорам стыхіі. Вучоныя прадказваюць планеце пахаладанне і папярэджваюць аб небяспецы і для беларусаў магчымых кіслотных дажджоў. Тым часам, у нашай краіне рыхтуюцца адзначыць усенароднае свята 65-годдзя Перамогі ў Вялікай Айчыннай вайне.**

## Âàæíåéøûÿ íàâ³íû ñâåòó

**Польшча.** Яўным фаварытам прызначаных на 20 чэрвеня прэзідэнцкіх выбараў стаў маршал сейма Браніслаў Камароўскі, за яго гатовы прагаласаваць больш 50 % палякаў.

**Кыргістан.** Часовы ўрад звярнуўся да сусветнай супольнасці з просьбай дапамагчы знайсці і заблакіраваць 172 млн. USD, вывезеных за граніцу прыбліжанымі К. Бакіева.

**Украіна.** Краіна ўзамен на правa Расіі трымаць флот яшчэ 25 гадоў у Севастопалі дабілася зніжэння ад "Газпрама" на трэць цаны паставак газу, дакументы падпісалі ў Харкаве.

**Расія.** Міністэрства замежных спраў РФ адназначна заявіла, што не лічыць больш падаўшага ў адстаўку Курманбека Бакіева легітымным кіраўніком Кыргістана.

**Бельгія.** Еўрапейская камісія назвала небяспечнымі для спажыўцоў 1993 найменні тавараў, з якіх амаль 60 % выраблены ў Кітаі, самыя няякасныя з іх кітайскія цацкі.

**Францыя.** Прэзідэнт краіны Н. Сарказі дaручыў распрацаваць закон, які забараняе насіць жанчынам мусульманскую паранджу ў грамадскіх месцах, Бельгія ўжо ўвяла такі парадак.

**Польшча.** Курс польскай валюты хутка аднавіўся пасля зніжэння, выкліканага гібеллю часткі вышэйшага кіраўніцтва краіны і главы Нацбанка РП Славаміра Скржыпека.

**ЗША.** Вядомы фінансіст Джордж Сорас папярэдзіў аб магчымым калапсе еўра з-за гігантскіх аб'ёмаў дапамогі Грэцыі і нават распаду еўразоны пасля яе аслаблення.

**Кітай.** Эканоміка краіны сёлета ў 1-м квартале вырасла амаль на 12 % больш, чым летась, рост цэн склаў 2 %, кітайцы ўпэўнена пераадолелі наступствы сусветнага крызіса.

**Іспанія.** Краіна развіталася з маркізам Хуанам Антоніо Самаранчам, адной з самых значных асоб сусветнага спорту, экс-прэзідэнтам МАК, памерлым на 90-м годзе жыцця.

**Іран.** За крытыку ўлад пасля прэзідэнцкіх выбараў ісламскі суд краіны прыгаварыў журналіста М. Нурызада да 3,5 гадоў турэмнага зняволення і да 50 удараў бізуном.

**Расія.** Былы лідэр Кіргізіі А. Акаеў назваў галоўнай прычынай адхілення К. Бакіева, што ён знішчыў у беднай краіне дэмакратыю, свабодныя СМІ і не займаўся эканомікай.

**Англія.** Самы знакаміты англійскі футбольны клуб "Ліверпуль" новых ўладальнікі з зімы 2007 года – амерыканцы з-за даўгоў пад 400 млн. USD афіцыйна выставілі на продаж.

**Венесуэла.** Непераможны 28-гадовы чэмпіён свету па боксу венесуэлец Эдвін Валеро паконччыў з сабой у турме неўзабаве пасля прызнання ў забойстве сваёй маладой жонкі.

**ЗША.** Адзіным уладальнікам рэкорднага джэк-пота 212 млн. USD, разыгранага ў латарэі "Пауэрболл", стала нечакана для сябе жыхарка штата Нью-Джэрсі Сандра Маккей.

## Ïàäçå³, ïðà ÿê³ÿ ãàâîðûöü Áåëàðóñü

**Мінск.** Валавы знешні доўг краіны летась вырас у 1,5 разы і перавысіў 22 млрд. USD, за кошт знешніх займаў у Беларусі ўдалося захаваць невялікі рост ВУП і рабочыя месцы.

**Бяроза.** Пад суд могуць пайсці лётчыкі і камандванне 927-й авіябазы пасля сутыкнення ў паветры двух ваенных дарагіх самалётаў МіГ-29, адзін з якіх разбіўся на авіяпалігоне.

**Мінск.** Нягледзячы на скарачэнне паступленняў рублёвых дэпазітаў насельніцтва Нацбанк Беларусі з 19 красавіка знізіў стаўку рэфінансавання з 13 да 12,5 % гадавых.

**Мазыр.** Рабочая група дамовілася з Украінай, што венесуэльская нафта на мясцовы НПЗ з Адэскага порта будзе дастаўляцца спачатку транзітам па чыгунцы да 300 тыс. тон у месяц.

**Мінск.** Відавочнай неабходнасці ў новых крэдытах праграмы МВФ stand-by пакуль няма, як заявіў міністр фінансаў Беларусі Андрэй Харкавец, сітуацыя стала больш стабільнай.

**Валожын.** На тэрыторыі раёна холдынг "Белінтэртранс" сумесна з партнёрамі з Літвы пачаў узводзіць сучасны буйны транспартна-лагістычны цэнтр коштам 25 млн. долараў.

**Мінск.** За апошнія 40 гадоў у Беларусі пагалоўе з 1,7 млн. галоў кароў на панадворках насельніцтва зменшылася болей чым у 6 разоў, правалена адпаведная дзяржпраграма.

**Астравец.** Да пляцоўкі будучай АЭС пачалі з райцэнтра будаваць чыгунку працягласцю 24 км, на працу сюды прыехала каля 500 чалавек, больш тысячы падалі заявы на работу.

**Гомель.** Другі па ліку сёлета пажар на РУП "Гомсельмаш" днём не пашкодзіў работнікаў галоўнага канвеера, але агонь знішчыў там каля 50 кв. метраў памяшкання і даху цэха.

**Мінск.** Атрымаўшы прыстанішча ў беларускай сталіцы К. Бакіеў нечакана адмовіўся ад сваёй адстаўкі, што выклікала чарговае абвастрэнне расійска-беларускіх адносін.

**Бабруйск.** Упершыню ў краіне ААТ "Фандок" пачаў выпускаць сучасныя і кампактныя наборы складной мэблі для пікнікоў, іх дэбют быў на "Мэблевым форуме-2010" у Мінску.

**Мінск.** Кіраўніцтва Міністэрства эканомікі ўпэўнена, што ўзровень зарплаты ў памеры 500 USD у Беларусі да канца года цалкам магчымы, для гэтага ёсць усе неабходнае.

**Жодзіна.** На выпрабавальным палігоне БелАЗа ўпершыню прадставілі навінку, адзін з самых вялікіх у свеце кар'ерны самазвал для перавозкі 360 тон грузу вышынёй болей 7 м.

**Мінск.** Вярхоўны суд РБ 6 мая вынесе прыгавор па гучнай справе прадпрымальнікаў з Ваўкавыска М. Аўтуховіча і У. Асіпенка за спробу быццам пакушэння на губернатара.

**Мінск.** Зноў маладзёжная зборная Беларусі (U-18) з трэскам вылецела з мацнейшай групы "А" чэмпіянату свету па хакеі, які праходзіў на лядовых арэнах Мінска і Бабруйска.

## Ïàíàðàìà ¢íóòðûàáëàñíûõ ïàäçåé

**Віцебск.** Толькі летась у вобласці, як адзначалася на каардынацыйнай нарадзе, ад атраўлення алкаголем і п'яных суіцыдаў загінуў 701 чалавек, на ўліку 34 тыс. алкаголікаў.

**Наваполацк.** Міліцыя затрымала 25-гадовага гараджаніна за распаўсюджванне відэаролікаў з дзіцячай парнаграфіяй у сетцы Інтэрнет, у яго знайшлі больш 300 дыскаў.

**Віцебск.** На склады прадпрыемстваў вобласці ў 1-м квартале вырабілі прадукцыі на 442,3 млрд. рублёў, вядучая нафтахімічная галіна ўпала на 34,2 % у параўнанні з 2009 годам.

**Сянно.** Расійская прыватная фірма купіла ў МПМК № 10 памяшканне для свайго завода па вытворчасці сухіх будаўнічых сумясей, дэкаратыўнай штукатуркі і агароджаў.

**Лепель.** Да 65-годдзя Перамогі райцэнтр, як і гарпасёлкі Расоны і Сураж, узнагароджаны памятным вымпелам "За мужнасць і стойкасць у гады Вялікай Айчыннай вайны".

**Віцебск.** Апошні школьны званок сёлета прагучыць 29 траўня для 10447 выпускнікоў сярэдніх школ вобласці, атэстаты аб базавай адукацыі атрымаюць 12530 юнакоў і дзяўчат.

**Гарадок.** Жыхары гарпасёлка Езярышча сабралі подпісы супраць дэмантажу і перавозкі ад іх у Віцебск лёгкага танка-помніка, які прастаяў тут амаль шэсць дзесяцігоддзяў.

**Бешанковічы.** Амаль 4 млн. рублёў штрафу заплаціў жыхар райцэнтра за пагрозу на падпітку газавым пісталетам вадзіцелю аўто, яго зямляк аштрафаваны за браканьерства.

**Віцебск.** У мясцовым Доме кіно прайшла прэм'ера новага фільма Мікіты Міхалкова "Стомленыя сонцам-2", уключанага ў конкурсную праграму Канскага кінафестываля.

**Шуміліна.** Каля самай буйной вёскі раёна Мікалаёва зноў знайшлі небяспечную знаходку – артылерыйскі снарад калібру 122 мм часоў вайны, яго размініравалі і знішчылі сапёры.

**Віцебск.** Да свайго 50-годдзя тэлерадыёкампанія "Віцебск" поўнасцю замяніла сваю аналагавую тэхніку на сучасную лічбавую, раней тут атрымалі перасоўную тэлестанцыю.

**Наваполацк.** У мясцовай гімназіі пачала дзейнічаць рэгіянальная акадэмія Cisco – міжнароднай сістэмы дыстанцыйнага навучання новым інфармацыйным тэхналогіям.

**Віцебск.** Паблізу горада ў пасёлку Тулава прайшоў відовішчны 1-ы этап чэмпіянату Беларусі па аўтамабільнаму кросу ў 4-х класах аўтамабіляў з удзелам гоншчыкаў і з Расіі.

**Орша.** Суд прыгаварыў да 7 гадоў турмы затрыманых тут дваіх суценёраўпарачку грамадзян Расіі за спробу прадаць у сексуальнае рабства ў Тулу беларускіх дзяўчат.

**Віцебск.** У канцэртнай зале "Віцебск" прайшоў фінал абласнога конкурса талентаў "Твой шанц" тэлеканала "Скіф", падобны на папулярны расійскі праект "Хвіліна славы".

*Служба інфармацыі "ВГ".*

## Лічба нумара

**10** млрд. USD – столькі даходаў, як агучвалася ў нядаўнім Пасланні кіраўніка дзяржавы беларускаму народу і парламенту, павінна атрымаць Беларусь за год толькі ад экспарту сваёй сельскагаспадарчай прадукцыі і прадуктаў харчавання да канца наступнай пяцігодкі. Планы грандыёзныя, але ажыццявіць іх будзе нам неймаверна цяжка нават сёлета, калі ставіцца задача зарабіць айчыннаму АПК ужо 3 млрд. долараў.

Праўда, у дакрызісным 2008 годзе беларусам нават пры больш спрыяльнай знешняй кан'юнктуры ад продажу харчавання за мяжу, найболей у Расію, удалося экспартаваць прадуктаў на 2,2 мільярды. Планаваць пяціразовы рост аб'ёмаў прадаж занадта аптымістычна нават ведаючы, што ад продажу малака і мяса наша краіна зараз зарабляе болей валюты, чым ад экспарту трактараў "Беларус". Як і надвор'е, цэны на сусветным харчовым рынку вельмі пераменлівыя, а канкурэнцыя звышжорсткая.

Нездарма і ў нас ва ўзаемаадносінах нават з самым блізкім саюзнікам – Расіяй раз-пораз перад гэтым узнікалі так званыя "цукровыя", "малочныя" і нават "мясныя войны". Узгадаем, як пасля выказвання расійскіх дзяржсанітараў паварочвалі назад на граніцы беларускія фуры з прадукцыяй і заганялі ў тупік айчынныя вагоны з цукрам. Таксама і беларуская сельская гаспадарка, па сутнасці тыя ж калгасы, толькі змяніўшы свае назвы і пячаткі на сельгаскааператывы, яшчэ чакаюць рэфармавання і пераходу да рынкавай эканомікі.

Калгасны лад патрабуе штогод велізарных датацый і пастаяннай падтрымкі. Пры гэтым ягоная прадукцыя па ўзроўню выдаткаў значна прайграе замежным фермерам. У лепшага беларускага вытворцы малакапрадуктаў, брэсцкай кампаніі "Савушкаў прадукт" па гэтай прычыне выдаткі на адзінку выпускаемай прадукцыі на 20 % большыя, чым на аналагічных малочных заводах суседніх Польшчы і Літвы. Не выпадкова ў краінах ЕС летась прадукты харчавання патаннелі адчувальна на 10-20 %, а ў нас харчаванне дарагое і цэны на яго пастаянна растуць.

Цяжка паверыць, што без датацый дзяржавы ў Беларусі будзе рэнтабельная сельская гаспадарка. Пакуль жа ў нас на 1 гектар ворыва ўкладваецца каля 220 USD, але толькі лічаныя гаспадаркі краіны могуць працаваць рэнтабельна і якасна. Прыкладаў безгаспадарчасці паўсюдна хоць адбаўляй, таму беларусам яшчэ далёка да сярэднееўрапейскіх надояў 10 тысяч літраў малака, ураджаяў пад 100 цэнтнераў, якія ў Еўропе норма жыцця.

Занадта смела прагназаваць заўтра нават падвоіць айчынны прадуктовы экспарт. Наша краіна можа вырабіць болей малака і мяса, але ці пралічвалася добра, каму, калі і колькі зможа Беларусь прадаць сельгаспрадукцыі і прадуктаў харчавання. Каб выйсці на аб'ём сельгасэкспарту, скажам 5 млрд. долараў, нам неабходна павысіць якасць выпускаемых прадуктаў харчавання да ўзроўню патрабаванняў тэхрэгламентаў ЕС. Пакуль жа ў 2009 годзе доля айчыннага АПК у агульным экспарце РБ дасягнула 10,4 % (чвэрць гэтых паставак заняў расійскі рынак).

Зараз на знешніх рынках найбольш запатрабаваны беларускія мяса і малочныя прадукты, на цукар попыт невялікі. На гэтым экспартным накірунку задумваецца яшчэ адзін рывок – рост прадаж піццявой вады, якія быццам змогуць кампенсаваць недаатрыманыя даходы ад экспарту нафтапрадуктаў. Сёлета таксама завяршаецца рэалізацыя праграмы адраджэння вёскі і стануць дзейнічаць амаль 1500 аграгарадкоў. Верагодна і ў далейшым прадоўжыцца гэты курс, які дае не надта вялікую аддачу на фоне агромістых інвестыцый.

Усе суседзі вакол нас у сельскай гаспадарцы перайшлі да прыватнай формы ўласнасці. І таму ім, а не нам, прасцей адрадзіць у сябе на зямлі прадпрымальніцкую жылку і дзелавую ініцыятыву, прыцягнуць замежныя інвестыцыі, заняцца міжгаспадарчай кааперацыяй і інтэграцыяй. Многія правільныя задачы і намеры на справе ў нас застаюцца на ўзроўні адных размоў і дэкларацый. Аграрная палітыка – рэч тонкая, калі мы хочам карміць багата і танна не толькі свой народ, але і замежных спажыўцоў.

Да 65-х угодкаў Вялікай Перамогі

# Лістоўка (быль)

Барыс Манцэвіч, г. Вілейка, член БСЖ

У 43-м годзе я па найму пасвіў статак у чэраскага хутараніна на Мёршчыне Васіля Канаха. У свае дзесяць з паловай гадоў я шмат у якіх справах разбіраўся як дарослы: дзеці вайны сталелі даволі хутка. Ведаў, напрыклад, што ўся наша сям'я на чале з маці ( бацьку немцы расстралялі ў ліпені 1941 года) уваходзіла ў антыфашысцкае падполле. А калі так, то трэба язык трымаць за зубамі. І мне здавалася, што гэта ў Барыса атрымліваецца.

Але язык языком, а канспірацыя канспірацыяй. Аднойчы ноччу над Чэрасамі праляцеў савецкі самалёт і раскідаў лістоўкі. Папар, на якім я пасвіў жывёлу, быў чысты, і лістоўкі ветрам сагнала да Грэцкага возера. Раніцай з усходам сонца я напароўся на гэтыя паперкі, што моцна трымаліся за лазовыя кусты. За маімі плячыма ўжо было тры класы адукацыі, у тым ліку адзін – нямецкай, і я з большага ўмеў чытаць. Не магу сёння перадаць змест лістовак, але памятаю, што заканчваліся яны словамі "Смерць нямецкім акупантам!".

Мой брат Юра, старэйшы за мяне на пяць гадоў, па прапанове ўпаўнаважанага ЦК ЛКСМБ Анана Міхасёнка, уладкаваўся пісарам у агульны аддзел Мёрскай раённай управы, што давала яму магчымасць знаёміцца з рознымі дакументамі, весці падпольную работу сярод моладзі райцэнтра. Прасіў знойдзеныя лістоўкі перадаваць яму.

Пра гэта было вядома і мне. Пераканаўшыся, што навокал нікога няма (такая рань – куды хто пойдзе!) я назбіраныя паперкі схаваў пад каменне, а сам пачаў зноў сачыць за статкам. Абедзьве каровы з бычком пярэзімкам і аж трыццаццю авечкамі хадзілі спакойна. Нават Палавая, найвялікшая шкодніца, не лезла ў пасевы.

Аднак думкі пра знаходку не пакідалі мяне. Што рабіць далей? Добра ведаючы, што гаспадароў па вечарах ніякія паліцэйскія не наведваюць, я прыхапіў лістоўкі з сабою, надзейна, як мне здавалася, схаваўшы ў торбу, куды клаў падвячорак і мяшок, які, на выпадак дажджу, служыў накідкай. На гэты раз я не толькі ад начлегу, але і ад вячэры адмовіўся. Сказаў, што надта дамоў пацягнула. А жылі мы на другім баку Чэрэскага возера, амаль што насупраць канахаўскага хутара. Калі ісці праз дамбу, што раздзяляла два возеры, то гэта будзе не больш, як паўкіламетра. Уся сям'я размяшчалася ў школьным цагляным будынку. І дырэктарам нямецкай, так званай "народнай" школы працавала мая сястра Ангеліна, а маці настаўніцай (дарэчы, усе настаўнікі з'уляліся падпольшчыкамі).

Маці ўспрыняла мой візіт са здзіўленнем. Але калі я перадаў ёй для Юры лістоўкі, яна ўзрадавалася, але з трывогай спытала:

– Цябе ніхто з імі не бачыў?

– Ніхто.

– А там такіх паперак больш не засталося?

– Усе падабраў.

Не ведала мама, што я адну лістоўку, проста так, на памяць, пакінуў для сябе. "Схаваю, – думаў, – хай ляжыць да пары да часу. А там бачна будзе".

Так і зрабіў. У пакоі, дзе мы жылі, стаяла кухонная шафа. Паліцы яе, яшчэ перад вайной, былі засцеленыя тоўстай карычневай паперай. Пераканаўшыся, што яна ў надзейным месцы, хутка заснуў. Назаўтра раніцай, да ўсходу сонца памчаўся на пасту. Праз некалькі дзён чарговае няшчасце абрынулася на нашу сям'ю – маці зноў, у другі раз, арыштавалі. І як жа я не ўгледзіў. Як яе на фурманцы паліцэйскія везлі ў Мёры праз "мой папар". Сумную вестку мне прынесла незнаёмая жанчына, якая ішла дадому з царквы. Не дачакаўшыся вечара, пагнаў статак у хлеў. Старыя гаспадары і іх двое дарослых сыноўантыфашыстаў мяне ні ў чым не папракалі, а наадварот, паведамленне аб арышце Аляксандры Міхайлаўны Манцэвіч сустрэлі з трывогай: не ведама, чым усё гэта скончыцца.

Апынуўшыся дома, я стрымгалоў кінуўся да шафы. Калі ў пакоі «бобікі» ўсё перакапалі, то магчыма, і да лістоўкі дабраліся. Аказваецца, яна была на месцы.

Тоня пільна сачыла за маімі дзеяннямі, і калі ўбачыла падазроную рэч, аж затрэслася ад страху:

– Ты ж, нягоднік, мог пагубіць усю сям'ю!

І такую аплявуху ўляпіла, што, здаецца, аж сёння гарыць мая шчака. Тоня выхапіла лістоўку і спаліла яе на прыпечку.

На шчасце, маці і на гэты раз удалося выкупіць: мясцовы бацюшка Багаткевіч Яўген Канстанцінавіч, таксама падпольшчык, ахвяраваў для гэтага залатую царскай цаканкі пяцёрку. Заставацца доўга ў падполлі было рызыкоўна і 3 верасня 1943 года ўся наша сям'я апынулася ў 6-м атрадзе 4-й Беларускай партызанскай брыгады.

---

**Смерць нямецкім акупантам!**

## ЗАБІВАЮЧЫ НЕМЦА— ТЫ НАБЛІЖАЕШ ПЕРАМОГУ

**МАЛАДЫЯ СЫНЫ І ДОЧКІ БЕЛАРУСКАГА НАРОДА!**

ВЫЗВАЛІЦЬ НАШУ РОДНУЮ ЗЯМЛЮ АД НЯМЕЦКАГА ГНЁТУ МОЖНА ТОЛЬКІ АДНЫМ ШЛЯХАМ — ЗНІШЧЫЦЬ НЯМЕЦКІХ ЗАХОПНІКАЎ УСІХ, ДА АДНАГО.

У радах Чырвонай Арміі **разгарнулася баявое спаборніцтва па знішчэнню немцаў.** Слаўныя снайперы спаборнічаюць паміж сабой — хто больш заб'е немцаў.

**Дзесяць лепшых снайпераў — адважных байцоў Чырвонай Арміі знішчылі 2250 нямецкіх салдат і афіцэраў. Дзяўчынаснайпер Людміла ПАЎЛІЧЭНКА забіла 309 гітлераўцаў, адважны воін САРТАЙН АБЕМЕТ — 300, знатны снайпер ЧЭГАДАЯЎ — 245.**

Ва ўсіх падраздзяленнях Чырвонай Арміі паднялася хваля баявога спаборніцтва па знішчэнню немцаў. Хто больш заб'е немцаў, той перамог у спаборніцтве, таму слава і падзяка народа.

**У гэта спаборніцтва ўключаюцца сотні і тысячы народных мсціўцаў — партызан.**

У атрадзе, дзе камандзірам тав. К., паспяхова прымяняюцца снайперскія засады. Аляксей С., Аляксандр М. і Людміла С. першы раз з засады забілі трох і ў другі раз чатырох немцаў. Кожны з партызан-снайпераў вядзе рахунак знішчаных немцаў. Людміла С. мае ўжо на рахунку 7 забітых гітлераўцаў, а праслаўлены снайпер — партызан Рыгор І. — 76 немцаў.

**А КОЛЬКІ НЕМЦАЎ ЗАБІЎ ТЫ?**

**Лік знішчаных немцаў вядзецца не толькі тады, калі яны забіты з вінтоўкі. Знішчайце гітлераўцаў гранатамі, узрывайце нямецкія эшалоны, мініруйце дарогі — дзе-б ні быў забіт немец, чым-бы ён ні быў знішчан — гэта ўсёроўна. Важна адно — забіць немца і чым больш, тым хутчэй мы канчаткова раздавім фашысцкую гадзіну.**

---

**ПРАЧЫТАЙ І ПЕРАДАЙ ДРУГОМУ.**

## СМЕРЦЬ АКУПАНТУ-ЛЮДАЕДУ!

ВОЎК АДНОЙЧЫ РАСКАЗВАЎ АВЕЧКАМ, ШТО ЁН-БЫ І РАД ІХ НЕ ЧАПАЦЬ, АЛЕ ПАЛЯЎНІЧЫ ЯМУ НЕ ДАЗВАЛЯЕ: ГАНЯЕ З МЕСЦА НА МЕСЦА, ТАК І НЕ ПАСПЕЕ ВОЎК УДОВАЛЬ ПАЕСЦІ ТРАВЫ. «А ЗАРАЗ ПАЛЯЎНІЧАГА НЯМА, — АДКАЗАЛІ АВЕЧКІ, — ЕЖ, ВОЎК, З НАМІ ТРАВУ». «А, НЯМА?» — І ВОЎК КІНУЎСЯ ДАВІЦЬ АВЕЧАК АДНУ ЗА ДРУГОЙ.

Ці не напамінае вам гэтая старая байка таго, што гавораць немцы: мы шалеем таму, што кругом партызаны, а каб не было партызан, былі-б мы шоўкавыя, шчыпалі-б траву і нікога не чапалі.

**ВОЎК НЕ МОЖА ЕСЦІ ТРАВЫ. НЕМЕЦ НЕ МОЖА ЖЫЦЬ БЕЗ КРЫВІ. ХІБА НЕМЕЦ ЛЮТУЕ ТОЛЬКІ СУПРОЦЬ ПАРТЫЗАН? ХТО НЕ ВЕДАЕ, ЯК ЁН ЗАБІВАЕ, НІШЧЫЦЬ НАША НАСЕЛЬНІЦТВА?**

Вось факты:

Тры дні варушылася зямля над магіламі людзей у Шклове, многія сотні якіх немцы закапалі жывымі.

У мястэчку Шуміліна, Віцебскай вобласці, да ўскраю лесу немцы сагналі 365 чалавек і загадалі капаць яму. Потым усіх расстралялі. Дзяцей і старых закапвалі жывымі.

Пяцігадовай дачцы настаўніцы Ліпскай гітлераўцы распаролі жывот, выкалалі вочы і кінулі ў яму на вачах у маці.

У вёсцы Нікалаева нямецкі афіцэр расстраляў сялян: Мазурава Васіля, Лебядзева Рыгора, Баранава Змітрака, Захарэнку Сымона, Баранава Сцяпана, Васілеўскага Івана. Яны адмовіліся пакінуць родныя мясціны і паехаць на катаргу ў Германію.

**Такую звярыную расправу над нашым народам немцы вядуць усюды. Усюды яны глядзяць аднаго: каго-б павесіць, зарэзаць, аграбіць, згвалціць, загнаць у магілу. Нямецкі воўк есць не траву, а чалавечыну.**

---

Немцы баяцца партызан. Партызаны напамінаюць немцам, што ёсць на іх управа, што беларускі народ ніколі не будзе рабом нямецкіх памешчыкаў, баронаў і фабрыкантаў. Партызаны — гэта сам народ, гэта гордасць і слава нашай Радзімы.

## МОЛАДЗЬ БЕЛАРУСІ!

ТОЙ, ХТО НЕ ДАПАМАГАЕ ПАРТЫЗАНАМ, **той сам зацягвае пятлю на сваёй шыі.**

А ТОЙ, ХТО **ДАПАМАГАЕ НАРОДНЫМ ПОМСТНІКАМ,** ХТО ІДЗЕ У РАДЫ ПАРТЫЗАН, **той набліжае час нашай перамогі, час вызвалення роднай беларускай зямлі.**

**У КОЖНАГА** МАЛАДОГА ПАТРЫЁТА СОВЕЦКАЙ РАДЗІМЫ ЁСЦЬ ТОЛЬКІ АДЗІН ШЛЯХ — ЗНІШЧАЦЬ НЯМЕЦКІХ ЛЮДАЕДАЎ-АКУПАНТАЎ, УСІХ ДА АПОШНЯГА!

**СМЕРЦЬ НЯМЕЦКІМ АКУПАНТАМ!**

73650. Выданне ЦК Ленінскага Комсамола Беларусі, 1942 г. Зак. 1781.

# Першага мая адбылася пілігрымка мужчынаў у Росіцу







■ кс. Віктар Місевіч

Першага мая адбылася пілігрымка мужчынаў у Росіцу. Пілігрымы з’ехаліся з розных мясцовасцяў Беларусі. Былі вернікі з Барысава, Глыбокага, Жодзіна, Віцебска і інш. гарадоў. Разам прыехала каля сотні чалавек.

Ініцыятарамі гэтага мерапрыемства з’яўляюцца айцы марыяне, якія апякуюцца росіцкай святыняй. Першага мая Каталіцкі Касцёл успамінае св. Юзафа рамесніка. Сімвалічна, што якраз у гэты дзень Росіца прыняла гасцінна мужчынаў-католікаў, якія сабраліся, каб разам маліцца за беларускія сем’і.

Пасля прывітання пілігрымаў а. Чэслаў Курэчка MIC запрасіў ахвотных прыступіць да сакрамэнту споведзі. Затым адбыўся канцэрт гітарнай музыкі. Яго падрыхтавалі музыкі з Наваполацка. Айцец Вячаслаў Пялінак MIC дасціпна патлумачыў, што гітара – яскрава мужчынскі інструмент, таму і быў абраны дзеля канцэрту. Паміж творамі гучалі каментары а. Вячаслава накont мужнасці. Ён падкрэсліў, што гэтай цнотай могуць валодаць усе: не толькі мужчыны, але жанчыны і дзеці. Гэтую праўду пацвярджаюць трагічныя падзеі ў Росіцы часоў II Сусветнай вайны.



Цэнтрам сустрэчы стала св. Імша, якую канцэлебравалі пяць святароў. Слова Божае прамовіў кс. Віктар Місевіч, які засяродзіўся на ўменні вернікаў гарманічна супастаўляць уласную працу з Божай ласкай.

Абед, які адбыўся пасля св. Імшы, пілігрымы пасмакавалі вонкі. Ніхто не застаўся галодны. За гэта шчырую ўдзячнасць мужчыны-пілігрымы выказвалі мясцовым гаспадыням і гаспадару парафіі – а. Чэславу.

Пасля абеду канферэнцыю для мужчын прамовіў а. Міхал Цвячкоўскі MIC. Ён прапанаваў прысутным паразважаць над аўтарытэтам бацькі ў сям’і і заклікаў мужчын быць вельмі адказнымі ў выхаванні дзяцей, даючы ім прыклад сваім жыццём.

Праз нейкі час пілігрымы заспявалі Літанію да св. Юзафа, просячы ў яго заступніцтва для сваіх сем’яў. Скончылася сустрэча кавай ля вогнішча, сяброўскімі размовамі і знаёмствамі. Ахвотныя дапамаглі а. Чэславу пасадзіць саджанцы дрэўцаў і добраўпарадкавалі тэрыторыю ля вадаёма, які неўзабаве паўстане непадалёк ад росіцкага касцёла.

Пілігрымка мужчынаў у Росіцу праходзіць не першы раз. Ёй цікавяцца ўсё новыя мужчыны-католікі. Гэта радуе. Ёсць надзея, што гэта - адзін з дзейсных спосабаў аднавіць аўтарытэт свецкага мужчыны ў Касцёле і сям’і.

# Зараз можна перайсці і да метаду адміністрацыйнага прымусу

■ А.В. Протас,
*начальнік Глыбоцкай міжрайінспекцыі аховы жывёльнага і расліннага свету.*

З надыходам траўня надвор'е стала значна цяплейшым, вакол усё пачало ажываць, з'явіліся лісточкі, нашмат весялей сталі спяваць птушкі, актывізаваўся клёў рыбы, але не спяць і браканьеры.

Толькі за першыя тры дні траўня супрацоўнікі Глыбоцкай міжраённай інспекцыі аховы жывёльнага і расліннага свету за незаконную здабычу рыбы браканьерскімі снасцямі затрымалі 6 грамадзян, у якіх канфіскавана больш 300 метраў сетак, 2 мярэжы і 9 кг незаконна здабытай рыбы.

Так, у ноч 1 траўня 2010 года супрацоўнікамі інспекцыі на рацэ Галбея Пастаўскага раёна з сеткамі і рыбай затрыманыя 2 мясцовыя жыхары, сваякі грамадзяне К., сеткі канфіскаваныя, а парушальнікаў чакае грашовы штраф.

2 траўня 2010 года каля 11 гадзін на возеры Камінскае падчас праверкі сваёй браканьерскай снасці, мярэжы затрыманы жыхар в. Азерцы грамадзянін С., раней у 2009 годзе ён ужо затрымоўваўся за аналагічнае правапарушэнне. Затрыманы С. растлумачыў, што ён выпадкова знайшоў мярэжу і вырашыў яе праверыць, але далёка не кожны грамадзянін штогод знаходзіць браканьерскія снасці, тым больш праверыўшы яе і не знайшоўшы рыбы, ізноў паставіў у ваду. Адзнаку яго дзеянням дасць раённы суд.

Гэта толькі адзінкавыя прыклады парушэнняў прыродаахоўнага заканадаўства, але людзі, паглядзіце, што робіцца на берагах нашых вадаёмаў, асабліва з наступам цяпла. Усе берагі завалены пустымі бутэлькамі, рознымі адыходамі чалавечай дзейнасці, самае навочнае месца, вадасховішча «Азерцы». Вельмі добры і некалі прыгожы вадаём ператвараўся ў раённую звалку дзякуючы рыбаловам-аматарам. Успамінаючы сустрэчу 23 сакавіка з рыбаловамі, я тады сказаў, што пасля Вашых рыбалак застаюцца горы смецця і амаль усе дружна сцвярджалі, што гэта не рыбакі, а напэўна іншапланецяне пакідаюць яго. Але наведайце гэты прыгожы і рыбны вадаём, жах, і ніводны рыбак, седзячы каля вады, не прыбраў каля сябе ніводнай пустой бутэлькі, сядзяць у кучы гною і цешацца. Затое зайсці ў перыяд забароны ў ваду па калена і лавіць 2 вудамі – гэта, калі ласка, а калі інспектар кажа, што можна за гэта атрымаць штраф у памеры 350 тысяч, тады крычаць – гэта жорстка.

Кіраўніцтва нашага раёна вельмі шмат робіць для добраўпарадкавання горада, населеных пунктаў, абочын дарог, лясоў, але да кожнага слупа, дрэва ці возера наглядчыка з дубінкай не паставіш.

Людзі, пачніце ў першую чаргу з сябе самiх, сваіх двароў, платоў, вуліцы, збярыце ў пакет пакінутае смецце пасля адпачынку на прыродзе і адвязіце ў смеццевы бак, што можа быць працейшага.

Супрацоўнікі інспекцыі ўжо досыць правялі тлумачальных гутарак і выступаў па выкананні санітарных нормаў, зараз можна перайсці і да метаду адміністрацыйнага прымусу, штрафы за парушэнні санітарных нормаў у лясах і на вадаёмах будуць велізарныя, а парушальнікаў, **пайменна** будзе ведаць увесь раён.

Пра ўсе парушэнні прыродаахоўнага заканадаўства Вы можаце паведаміць на тэлефон «гарачая лінія» : 8 - 02156 - 2-86-70, маб. 897-23-02, 890-55-28.



**Рэчка Мікітка збірае смецце з усяго гораду і нясе яго ў возера Кагальнае.**

# Будуць выдаваць льготныя крэдыты на рамонт пустуючых жылых хат на сяле

Рэжым льготнага крэдытавання будзе распаўсюджаны на рамонт пустуючых індывідуальных дамоў (кватэр), якія знаходзяцца на балансе сельскагаспадарчых арганізацый Беларусі. Як паведамілі БЕЛТА ў прэс-службе Прэзідэнта Беларусі, у адпаведнасці з указам №212, якім унесены змены ва ўказ ад 2 верасня 1996 года №346 «Пра некаторыя меры па развіцці жыллёвага будаўніцтва на сяле», Аляксандр Лукашэнка падпісаў 30 красавіка.

На канец 2009 года ў краіне налічвалася 6225 пустуючых жылых дамоў (кватэр), змешчаных на балансе сельскагаспадарчых арганізацый. Як правіла, гэтыя жылыя дамы (кватэры) пабудаваны 10 і больш гадоў назад і патрабуюць правядзення капітальнага рамонту.

Па выніках вывучэння гэтай праблемы прызнана магчымым аднаўленне (рамонт) і наступнае выкарыстанне 3015 пустуючых жылых дамоў (кватэр), ці 48% агульнай іх колькасці. Фінансавыя выдаткі на правядзенне рамонту ацэньваюцца ў Br122,4 млрд. Па інфармацыі Мінбудархітэктуры, на будаўніцтва такой жа колькасці жылых дамоў (кватэр) запатрабуецца Br722,5 млрд, ці практычна ў 6 разоў больш, чым на рамонт. Такім чынам, рамонт гэтай часткі пустуючых дамоў (кватэр) з наступным уцягваннем іх у гаспадарчы зварот з'яўляецца эканамічна мэтазгодным.

Выдаткаванне на гэтыя мэты льготных крэдытаў ААТ «Белаграпрамбанк» будзе спрыяць зніжэнню колькасці пустуючага жылля ў сельскай мясцовасці і рашэнню жыллёвага пытання для работнікаў гаспадарак і арганізацый сацыяльна-культурнай сферы.

Па інфармацыі Мінсельгаспрода, колькасць людзей, якія патрабуюць паляпшэння жыллёвых умоў у сельскагаспадарчых арганізацыях на лістапад 2009 года складала 8854 чалавекі.

Акрамя таго, прыведзеныя ў адпаведнасць з іншымі нарматыўнымі актамі некаторыя нормы ўказу, якія тычацца вылучэння льготных крэдытаў на будаўніцтва жылых хат па зацверджаных Мінбудархітэктуры тыпавых праектах і праектах паўторнага ўжывання, а таксама часткі аплаты паслуг па дзяржаўнай рэгістрацыі нерухомай маёмасці.

Указ уступае ў сілу пасля яго афіцыйнага апублікавання.

# Электраінструментаў стала больш і адрамантаваць іх можна ўжо і ў Глыбокім



На Маскоўскай, 79


Вялікі выбар электра і бензаінструментаў на Маскоўскай, 79.

■ Ул. Скрабатун

30 красавіка 2010 года ў магазіне электраінструментаў і будаўнічых матэрыялаў на вул. Маскоўскай, 79, які належыць прыватнаму прадпрыемству «Аляхновіч і Кº», адбылася прэзентацыя адкрыцця Сервіснага цэнтра па гарантыйнаму рамонту і абслугоўванню электра і бензаінструментаў.

Прэзентацыю праводзіў намеснік генеральнага дырэктара ААТ «СувязьПрамІнвест», афіцыйнага прадстаўніка нямецкай кампаніі, якая з'яўляецца пастаўшчыком прафесійнага будінструмента. Ён прадставіў глыбоцкую фірму «Аляхновіч і Кº», як паўнамоцнага дылера па пастаўцы, абслугоўванню і рамонту электра і бензаінструмента. На прэзентацыі присутнічалі прадстаўнікі арганізацый г. Глыбокае, Докшыцаў і Шаркоўшчыны.

Асартымент электра і бензаінструмента ў магазіне прыватнага прадпрыемства «Аляхновіч і Кº» павялічаны ў шмат разоў і водпуск тавараў адбываецца па коштах першага пастаўшчыка.

Электраінструментаў стала больш і адрамантаваць іх можна ўжо і ў Глыбокім.




*Фёдара Раслававіча Арэхва*

**Віншуем з Днём нараджэння!**

Живи, родной наш, сотню лет,
Пусть не убудут твои силы.
За всё, что делаешь для нас,
Огромное тебе спасибо!
Пусть в глазах твоих добрых, лучистых
Будет вечно гореть яркий свет,
Много лет тебе светлых и чистых,
И здоровья на сто долгих лет!

*Любячыя цябе жонка і дзеці.*

*Кацярына Сямёнаўна Шчасная!*

**Любімая наша матуля і бабуля**
**Віншуем цябе з Днём нараджэння!**

Ты нам тепло дарила и улыбки,
Могла нас в горе, радости понять,
Прощала нам обиды и ошибки
И до сих пор готова их прощать.
Без сна ночей твоих прошло немало,
Забот, тревог твоих не перечесть,
Земной поклон тебе, родная мама,
За то, что ты на свете есть!
Целуем твои руки, дорогая,
Морщинки и седую прядь волос,
И просим у тебя прощенья
За боль и грусть, что каждый преподнёс.
Живи подольше, человек любимый,
А главное, конечно, не болей!

*Дзеці, унукі.*

*Наталлю Уладзіміраўну Сядову*

**Віншуем з Днём нараджэння!**

С Днём рождения поздравляем,
От души тебе желаем:
Ясных дней, как небо чистых,
Море счастья, глаз лучистых,
А любви такой большой,
Как огромный шар земной.
Будь весёлой и красивой
И всегда, всегда счастливой!

*Мама, тата, сястра Надзея, пляменніца Насця.*


Адрамантаваць электраінструменты можна тут – на Маскоўскай, 79.

*Фота Ю. Калбасіча*

*Наталлю Сядову*

**Віншуем з Днём нараджэння!**

Будь самой веселой и самой счастливой,
Хорошей и нежной, и самой красивой.
Будь самой внимательной, самой любимой,
Простой, обаятельной, неповторимой,
И доброй, и строгой, и слабой, и сильной,
Пусть беды уходят с дороги в бессильи.
Пусть сбудется всё, что ты хочешь сама.
Любви тебе, веры, надежды, добра!

*Калектыў "ВГ"*

## Дырэктар віцебскай фірмы махлярскім шляхам завалодаў 237,5 млн. рублёў, якія належаць 15 жыхарам абласнога цэнтра

**Папярэднім расследаваннем Першамайскага РАУС Віцебска распачата справа на падставе ч. 4 арт. 211 Крымінальнага кодэкса (прысваенне або растрата ў асабліва буйным памеры) у дачыненні да 36-гадовага дырэктара мясцовай фірмы.**

Як паведамілі ў аддзяленні інфармацыі і грамадскіх сувязей УУС Віцебскага аблвыканкама, з мая па лістапад 2009 года ён махлярскім шляхам, пад маркай дастаўкі аўтамабіляў з Германіі, завалодаў грашовымі сродкамі 15 жыхароў Віцебска на 237,5 млн. рублёў.

Крымінальная справа распачата паводле матэрыялаў аддзела па барацьбе з эканамічнымі злачынствамі Першамайскага РАУС.

*Вячаслаў Будкевіч, БелаПАН.*

## Ярмошына дапускае, што прэзідэнцкія выбары пройдуць увосень

Як заявіла ў інтэрв'ю БелаПАН кіраўнік Цэнтрвыбаркама Беларусі Лідзія Ярмошына, яна не выключае праведзення прэзідэнцкіх выбараў восенню 2010 года.

У адпаведнасці з заканадаўствам, прэзідэнцкія выбары павінны быць прызначаныя не пазней, чым за пяць месяцаў, і праводзяцца ў нядзелю не пазней, чым за два месяцы да заканчэння тэрміну паўнамоцтваў папярэдняга прэзідэнта. Такім чынам, крайні тэрмін правядзення прэзідэнцкіх выбараў – 6 лютага 2011 года.

«Вядома, выбары было б зручней правесці да Новага года. Быў бы іншы настрой у грамадстве», – лічыць Лідзія Ярмошына.

# ТЭЛЕТЫДЗЕНЬ "Вольнага Глыбокага"

10 – 16 траўня 2010 г.







## ПАНЯДЗЕЛАК, 10 траўня




**07.20** Мультфильм **«Дюймовочка»**
**07.50** «Доброе утро, Беларусь!».
**09.00**, **12.00**, **15.00**, **19.00** Новости.
**09.05** Nota Bene.
**09.35** В мире моторов.
**10.00** К**«Белорусский вокзал»** (СССР).
**12.10** Документальный цикл «Великая война» Фильм «Курская дуга».
**13.00** Военная драма **«На безымянной высоте»** (Россия-Беларусь). 1-я и 2-я серии.
**15.10** Новости региона.
**15.30** Военная драма **«На безымянной высоте»**3-я и 4-я,
**17.25** «Фортификация»
**18.05** «Культурные люди».
**18.35** «Арена».
**19.15** «OFF STAGE LIFE»
**19.30** «КЕНО».
**19.35** Концерт Валерия Леонтьева.
**21.00** Панорама.
**21.40 «Зависть богов»**




**07.00** «Наше утро».
**08.00**, **09.00** Наши новости.
**09.05** Контуры.
**10.10** «Здоровье».
**10.55** Пока все дома.
**11.50** «Счастье есть!».
**12.40** «Фазенда».
**13.20 «В шесть часов вечера после войны»**.
**15.00** Премьера. Песни нашей Победы. «День Победы».
**16.00** Наши новости.
**16.15** Новости спорта.
**16.20 «Диверсант»**.
**20.30** Наши новости.
**21.00** Новости спорта.
**21.05** «ДОстояние РЕспублики».
**00.05-01.15** «Королевские каникулы». Док. фильм.




**06.50 «Девочка ищет отца»**
**08.15** Монологи о войне.
**08.25** «Звезда». Гала-концерт лауреатов телевизионного фестиваля армейской песни.
**09.45** В этот день.
**09.50** Док.фильм «Линия жизни. Врачи войны» (Беларусь).
**10.20** Военная драма **«Рябиновый вальс»**
**12.10** Документальный фильм «Выпускной на минном поле»
**12.40** Монологи о войне.
**12.50** «Пра мастацтва».
**13.15** Экспедиция. Избранное.
**13.20** «Память. Века-









помныя дні былых франтавікоў».
**13.50** Внеклассный час.
**14.05** Бухта капитанов.
**14.45 «Судьба»** (СССР).
**17.45** «Мы-беларусы».
**18.50** Монологи о войне.
**19.00** Военная драма **«Торпедоносцы»**
**20.50** Калыханка.
**21.10** Хоккей. Чемпионат мира. Германия-Финляндия. Прямая трансляция.
**23.30** Футбол. Чемпионат Англии. Обзор тура.
**00.25** Живой звук.




**06.50** «Кино»: **«СОЛДАТЫ»**.
**08.30** «Неделя».
**09.35** «Большой завтрак».
**10.05** «Званый ужин».
**11.00** «Большой город».
**11.40** «Звездный ринг».
**12.50** «Кино»: **«ОХОТА НА ВЕРВОЛЬФА»**.
**16.30** «24 часа».
**16.40** «Добро пожаловаться».
**17.00** «Наше дело».
**17.10** «Званый ужин».
**18.05** «Кино»: **«О ТЕХ, КОГО ПОМНЮ И ЛЮБЛЮ»**.
**19.30** «24 часа».
**20.00** «СТВ-спорт».
**20.10**«Добрыйвечер, малыш».
**20.25 «МЫ ИЗ БУДУЩЕГО»**.
**22.40** «Столичный футбол».
**23.10** Не Юбилей-ный вечер. Сергей Безруков.



**17:00** Аб'ектыў
**17:05 «Ранча Піковая Сямёрка»**25 серыя
**17:35** Госць «Белсату»
**17:50 «Арол: крымінальная сага»**, 17 серыя
**18:50** Невядомая



Беларусь: «Свіцязь, горад на дне возера», дак. фільм, рэж. Міхал Бачун, 2009 г., Беларусь
**19:20** Гісторыя пад знакам Пагоні
**19:30 «Прыгоды ката Філемона»**, мультсерыял
**19:40** Еўропа сёння
**20:10** ПраСвет
**20:25** Блізкая гісторыя. Іншы погляд: «Сямя» (Nasiona), дак. фільм, рэж. Война Каспэрскі (Wojciech Kasperski), 2005 г., Польшча
**21:00** Аб'ектыў
**21:20** Прыватная калекцыя
**21:40** Прэс-экспрэс
**21:55** Моўнік
**22:05** Фільматэка майстроў: **«Жэлары»**
**00:30** Аб'ектыў

